# Ніва

**БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК**

№ 16 (1260) ГОД XXV БЕЛАСТОК, 20 КРАСАВІКА 1980 г. ЦАНА 1 ЗЛ.




*Перад пасадкай бульбы варта паклапаціцца, каб сабраць з поля каменне. Гэтая цяжкая праца напэўна аплоціцца. На здымку: жанчыны са спулдзельні прадукцыйнай у Дарожках.*

ВЯСНА-80

Нездарма ж гавораць у народзе: *Як пасцелеш, так заснеш, як пасееш, так сажнеш.*

Развітаўшыся з інж. Б. Флёрчыкоўскай з ваяводскага ўпраўлення, паспяшаў я ў **„Цэнтралю насенную“**. Гэта ад яе арганізацыйнай спраўнасці ў шматзначнай ступені залежыць канчатковы ўраджай на полі.

Прыняў мяне першы намеснік дырэктара прадпрыемства, мгр інж. **Віталь Швай,** прыняў надзвычай ветліва, але, на жаль, не меў занадта чым парадаваць і мяне і сялян.

— Памятаеце, — пачаў ён ад паясненняў, — колькі бяды звалілася на галаву сялян у мінулым годзе! Найперш — лютая зіма са снегам пад дахі хат, пасля знішчальная паводка, а затым — працяглая засуха і ўрэшце, пад канец лета — амаль безупынныя дажджы, пасля якіх зусім нечакана, бо пад канец кастрычніка і ў пачатку лістапада ўдарыў мароз — да 15 градусаў. А бульба яшчэ была на полі! Усё гэта, — прадаўжае дырэктар, — вельмі ўскладніла нашу працу. У папярэднія гады мы не толькі забяспечвалі хлебаробаў усялякім насеннем, але яшчэ прадавалі яго ў іншыя раёны краіны. Наша прадпрыемства было галоўным пастаўшчыком насення кармавых культур, а




зараз мы самі вымушаны былі нізка пакланіцца партнёрам, каб паратавалі нас у бядзе.

— Гэта значыць — каму?

— Найбольш насення прадалі нам сяляне з Пазнанскага, Быдгаскага і Кашалінскага ваяводстваў. Дзякуючы гэтай дапамозе змаглі мы амаль поўнасцю абяспечыць патрэбы нашых сялян на пшаніцу і ячмень...

— А што з аўсом?

Дырэктар замест адказу паказвае мне тэлеграму, падпісаную намеснікам міністра сельскай гаспадаркі Завадзінскім, з якой вынікае, што міністэрства не зможа рэалізаваць ані дадатковых, ані нават планавых паставак аўса на насенне, бо няма адкуль яго браць, а той, што ёсць, мае вельмі слабую сілу ўзыходу.

Чытаю я гэтую тэлеграму і чую, што ва мне нарастае нешта балючае. То ж як пасееш... І тут жа ўсплываюць у памяці шматлікія размовы з сялянамі, якія праводзіў я і ў Храбалах, і ў Новым Востраве, і ў Сакалдзе.

— Так, год цяжкі для нас, — гаварылі яны. — Не хапае саломы, няма чым слаць у хлявах. Але поле трэба абавязкова абсеяць!

— Сам не з'ем, жывёле не дам, а на полі пасею, — рашуча заяўляў Павел Байгус, солтыс Сакалды, пра якога калі-небудзь напішу я асобна, бо чалавек ён цікавы. Але да тэмы. Дырэктар

(Працяг на стар. 5)

## ТАКОЕ ЯНО БЫЛО ЖЫЦЦЁ

Вузкі праезд, толькі як на фуру, раздзяляе сялібны ўчастак на дзве часткі. Па левую руку, шчытом да вуліцы, зусім яшчэ добрая драўляная хата цягне за сабой цэлы рад гаспадарчых будынкаў. Направа — прыгожы мураваны дом. Усюды відаць дбайная рука гаспадара.

— Гэта ўжо Мікалай, сын мой, — заяўляе з утойванай радасцю маці. — Напрацаваўся, небарака, за сваё жыццё, уздыхае. — Цяпер, калі можна і лягчэй пажыць, то ўсё ранейшае адбіваецца — то ногі ломіць, то папярэк, што не паварушыцца. Дзе ж будзе тое здароўе, калі ад маленства за плугам. Не было каму, дык мусіў. Прыдзе, бывала, з поля, дам я яму есці, а ён, бедняга, просіць, каб толькі рэдкага не даваць, а нечага густога, так рукі зператому трасуцца, што лыжкі да рота не данясе, разліе.

Анастасія Сапяжынская засталася на сваім месцы. У новую хату перабраліся сын з нявесткаю, унукі, а яна засталася ў



сваёй. Не, не таму, што не ладзяць. Сапяжынскія жывуць вельмі згодна і прыкладна. Не ў роскашы гадаваліся, ведаюць, што такое гора, недастатак. Засталася яна ў сваёй хаце таму, што тут прайшла большая частка яе жыцця, тут адно за адным валіліся на яе плечы няшчасці, сюды заглядала хвілінная радасць. Так, хвілінная, бо яна была тут толькі госцем. Нялёгкі выпаў лёс на Анастасію Сапяжынскую.

Пайшоў ёй ужо восемдзесят пяты год. Родам яна з Чыжоў. У Збуч выйшла замуж.

— А ўжо і не памятаю, калі гэта было. Сорак чатыры гады, як мужа няма, а з ім пражыла семнаццаць, то бачыце, колькі будзе, — гаворыць. — Ад маленства трэба было працаваць, не то, што цяпер. Памятаю, як яшчэ дзеўкаю была, — пачынае расказваць.

(Працяг на стар. 4)

## ТОЛЬКІ АДНО ПЫТАННЕ

Мы звярнуліся да начальнікаў гарадоў і гмінаў Беластоцкага ваяводства з пытаннем:

— Што вы лічыце за найважнейшае грамадска-гаспадарчае дасягненне ў гміне ў мінулым годзе?

Сёння адказваюць:

**Мгр ЮРЫ БУЙНОЎСКІ, начальнік Гайнаўскай гміны:**

— Утрыманне дасягнутых вынікаў у сельскай гаспадарцы. Нашыя сяляне прадалі 1560 тон жывой вагі свойскай жывёлы (у параўнанні з 1978 годам дык на 330 тон больш), амаль 6 млн. 600 тысяч літраў малака (на 60 тысяч літраў больш), 4125 тон бульбы (больш на 685). Земляробы падсеялі 154 кілаграмы НПК у чыстым рэчыве на 1 га зямельных угоддзяў (у 1978 г. 134 кг НПК). Павялічылася ў нас колькасць кароў, свіней і авечак. Хлебаробы — спецыялісты прадалі дзяржаве сельскагаспадарчых прадуктаў на суму звыш 24 млн. злотых.

У 1979 годзе прыбыло нам 37 спецыялістычных гаспадарак і на канец года было іх 105. Найбольш жывёлагадоўчых. Адзінаццаць спецыялістычных гаспадарак утварылася ў Пасечніках Вяліківх, і гэтая вёска стала вёскай спецыялістычнай. Тут гаспадары спецыялізуюцца перш за ўсё ў гадоўлі рагатай жывёлы. У тым жа годзе шэсць картаў спецыялістычных гаспадарак па вырошчванню сельскагаспадарчых культур атрымалі сяляне Пуцiскаў. Цяпер у Гайнаўскай гміне 112 спецыялістычных гаспадарак. Сярэдняя іх велічыня 10 га. Спецыялістычныя гаспадаркі прадалі на пунктах скупкі 20% агульнай прадукцыі. У сярэднім на суму 22 500 злотых з кожнай гаспадаркі (неспецыялістычныя індывідуальныя гаспадаркі прадалі ў сярэднім на суму 14 тысяч злотых кожная).

У 1980 годзе колькасць спецыялістычных гаспадарак павялічыцца на 25.

Добрых поспехаў у працы дабілася сельскагаспадарчая прадукцыйная спулдзельня (РСП) у Махнатым. Павялічылася колькасць яе членаў на 15. Яна — прыклад добрага гаспадарання (у яе ўладанні 240 га зямельных угоддзяў). Таму ў яе ўступаюць сем'і добрых індывідуальных гаспадароў.

Спулдзельцы гаспадарчым спосабам пабудавалі хлеўню для 200 тучнікоў і адпаведна прыстасавалі пустыя будынкі на 16 тысяч штук брайлераў. У мінулым годзе прадалі 100 тон жывой вагі мясных курэй. Мелі для падзелу каля 2 мільёнаў злотых. З іх заплацілі за працадні і 180 тысяч злотых прадназначылі на ўзнагароды для тых, хто найлепш працаваў. 250 тысяч злотых адвялі на стабілізацыю зарплатаў у бліжэйшыя гады.

РСП у Махнатым намерана шырэй заняцца гадоўляй малочных кароў. Ужо ў 1981-82 гадах. У яе дастаткова зялёных угоддзяў. Будуць яны больш рацыянальна выкарыстоўвацца.

**ВАСІЛЬ НОВІК, начальнік Чыжоўскай гміны:**

— Добраўпарадкаванне гаспадаркі зямлёй і новыя інвестыцыі. Зрабілі абменнае сцаленне зямельных угоддзяў жыхароў вёскі Ляды. Мелі яны гэтыя ўгоддзі ў трох гмінах: Гайнаўка, Белавежа і Нараў. Цяпер маюць на месцы. У Клейніках „збілі“ ПФЗ у адзін 200-гектаровы кавалак і перадалі ў загаспадаранне адзінкам грамадскай гаспадаркі. Добраўпарадкавалі гаспадарку зямлёй у Збучы, Камені, Курашаве і Вульцы. У Збучы ў выніку абменнага сцалення ўтварыўся 150-гектаровы комплекс зямельных угоддзяў і іх перадалі чыжоўскаму СКРу.

У 1979 годзе земляробы купілі 170 га з дзяржаўнага фонду зямлі на павелічэнне плошчы сваіх гаспадарак. Каля двухсот прастарэлых сялян перадало свае гаспадаркі наследнікам.

У мінулым годзе Клейнікі атрымалі вулічнае электрычнае асвятленне. Мадэрнізавалі вулічнае асвятленне ў Чыжах. Пабудавалі гаспадарчыя будынкі пры раміза-святліцы ў Клейніках (многа працавалі пры пабудове ў грамадскім пачыне).

У будынку былой школы ў Койлах адкрылі клуб „Рух“.

На рэчцы Локніцы каля Лянева пабудавалі вадасховішча, якое займае плошчу амаль 1 гектар. Сёлета берагі яго будуць загаспадараны.

Падрыхтаваў **Я. Целушэцкі**

# 3 БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### ПРА СКАРЫНУ ПА-ФРАНЦУЗСКУ

ЮНЕСКА выдала ў Парыжы на французскай мове ў серыі „Выдатныя дзеячы славянскай культуры“ навукова-папулярны нарыс „Францыск Скарына“. Яго напісалі супрацоўнікі Акадэміі навук Беларусі. Гэта першая кніга пра нашага першадрукара, апублікаваная ў Заходняй Еўропе. ЮНЕСКА плануе выдаць яе і на англійскай мове.

### ВУГАЛЬ НА ПАЛЕССІ

Буйныя радовішчы бурага вугалю выяўлены непадалёк ад Жыткавіч. Пласты залягаюць параўнальна неглыбока, што дазволіць здабываць карысныя выкапні адкрытым спосабам. Мяркуецца за год здабываць некалькі мільёнаў тон вугалю. Увесь ён пойдзе на паліва для цеплавых электрастанцый.

### *КАЛЯНДАР*

**110 гадоў назад**

22.4.1870 нар. У. Ленін (Ульянаў), правадыр рускага і міжнароднага рабочага руху, заснавальнік бальшавіцкай партыі, стваральнік савецкай дзяржавы, найвыдатнейшы тэарэтык марксізму 20 ст.

**35 гадоў назад**

20.4.1945 пам. В. Серашэўскі, польскі пісьменнік.

26.4.1945 загінуў А. Вашкевіч, Герой Савецкага Саюза, генерал, камандзір 5 пяхотнай дывізіі В. П. Нар. у Белавежы 28.8.1901.

* * * * * * * * *

21 IV 1910 г. „Наша ніва“ пісала:
**В. Студзянкі,** Гродзенскай губ. Сакольскага павету. Дрэнна жывецца нашым хлебаробам; а найгорш тым, каторыя паразрывалі і без таго скупыя свае надзелы на маленькія шматочкі; цяпер і выходзіць, што „сам не гам, і другому не дам“, бо на такіх шнурочках каня не прахарчуеш, дык і няма за што рук зачапіць, вось гаспадар адракаецца і гэтага шматка зямліцы, дый ляжыць яна, зарастаючы кустамі, адлогам. Кідаюцца тады такія сяляне на заработкі, — балазе, што ёсць яшчэ ў нас хоць чужыя лясы; толькі не кожны ўмее шанаваць сваю працу: найбольш у след спушчаюць яны свае грошы. Так, напрыклад, пры расплатцы адны бралі па 30 рублі., а іншыя па 30... капеек!

Цяпер нашы сяляне накінуліся на навіны, якія пазаставаліся з-пад казённых дзялянак, на каторых не хоча ніяк брацца лес. Казна аддае іх на тры гады пад распашку і бярэ па 4 рублі ў год за дзесяціну. Пасля гэтага тэрміну казна маніцца садзіць лес. На гэтых дзялянках жыта не родзіцца, але ярына ўдаецца добрая. Казённыя лясьнікі таксама аддаюць сялянам свае ўчасткі зямлі, але на трэціну.

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE“**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch“, Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku.
Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch“ oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 52 zł. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch“, Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie nr 1153-201045-139-11.

B.Z.Graf. Zam. 635. Nakład 7.700 I-5






*Працы У. Леніна, выдадзеныя на беларускай мове.*

**КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА**

## „ДАРАГІ ТАВАРЫШ ІЛЫЧ“

Перада мною ляжыць кніга, з якой яшчэ не выветрыўся пах друкарскай фарбы. Толькі што яна трапіла на прылаўкі кнігарань і адразу стала адной з самых папулярных кніг года. Гэта збор лістоў працоўных Беларусі, якія яны накіроўвалі ў 1917-1924 гадах правадыру Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі ў Расіі і кіраўніку дзяржавы Уладзіміру Леніну. Кніга выйшла ў выдавецтве „Беларусь“ у сувязі з 110-й гадавінай з дня нараджэння Леніна. Што ж знаходзіцца ў гэтых дакументах, калі пасля стольніх дзесяцігоддзяў яны такія цікавыя цяперашняму чалавеку?

Бадай, самае дзіўнае, у чым наглядна пераконвае кніга, гэта тое, што чалавек, які вырашаў складаныя палітычныя праблемы, на якім ляжалі дзяржаўныя клопаты, што і не было ім падобных у гісторыі, які распрацоўваў тэарэтычныя падставы сацыялізму і ажыццяўляў іх на практыцы, — гэты чалавек ні на хвіліну не траціў канкрэтнай, гарачай сувязі з народам. Якраз наадварот: яго энергія першаадкрывальніка і пераўтваральніка, яго перакананне ў слушнасці сваёй місіі жывіліся безумоўнай, шчырай падтрымкай мас — так рака жывіцца прытокамі. Гэтая двухбаковая патрэба аднаго для другога і дыктавала словы пахвалы, зразумення і любві. Напрыклад, ліст з датай 8 лістапада 1917 г. ад сялян Івана Петрашэнкі і Піліпа Барадаўкі, „Сяляне Смалянецкай воласці, Лепельскага ўезда, Віцебскай губерні, што былі на сходзе 8 гэтага ж лістапада ў сваёй вобласнай земскай управе і пазнаёміліся з дэкрэтам пра зямлю, які быў прыняты на пасяджэнні з'езду Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў 26 кастрычніка і паводле якога доўгачаканая сялянствам зямля перайшла ў іх рукі, шлюць Вам і Саветам гарачую падзяку за стаpанні і змаганне за працоўнае сялянства, прыгнечанае доўгія стагоддзі панскім ярмом“.

Па сутнасці, не было ніводнай кампаніі савецкай улады, на якую не адклікнуліся б простыя людзі ў асабістым лісце свайму Ільічу. „З абломкаў белагвардзейскіх пабудоваў, — інфармуюць яго рабочыя горада Полацка, — намаганнямі рабочых і кіраўнікоў створана магутнае тэхнічнае збудаванне — чыгуначны мост праз раку Заходнюю Дзвіну каля Полацка. Вызначаны дзень адкрыцця адбудаванага маста. Мы, рабочыя і кіраўнікі работ 2-й аднаўленчай арганізацыі ў ліку 1000 чалавек, шлём сваё прывітанне і віншуем Вас з яшчэ адной перамогай на гаспадарчым фронце“. Віцебляне дзеляцца сваёй радасцю ў сувязі з пачаткам працы электрычнай станцыі „для асвятлення рабочых ускраінаў горада“. А мінчане з гонарам пішуць яму: „Паўстанне рабочых і сялян у дні Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, калі пралетарыят Расіі, якім кіравала Камуністычная партыя і Вы як яе правадыр, узяў у свае рукі ўладу, дапамагло працоўнай Беларусі вызваліцца з векавога эканамічнага і духовага прыгнёту і працоўным знайсці сваю Айчыну — Савецкую Беларусь.

Адкрываючы ў дзень вызвалення Мінска — цэнтра Беларусі — Беларускі дзяржаўны універсітэт, урачысты сход, прысвечаны адкрыццю, ад імя партыйных рабочых, культурных і грамадскіх сіл краю шле Вам, дарагі правадыр, сваё гарачае прывітанне“.

Лісты сведчаць, што людзі бачылі ў Леніне не толькі чалавека, якому дарагая кожная ўдача народнай улады і таму яны паведамлялі яму пра ўсе яе ініцыятывы, яны шукалі ў ім дарадчыка і абаронцу. І знаходзілі. У самы цяжкі час грамадзянскай вайны працаўнікі Рудненскага выканаўчага камітэта просяць Леніна прыняць іх дэлегата, каб высніць яму пастанову пра рабочы кааператыў, і Ленін адразу адказвае: „Магу прыняць Вас...“ Да Леніна прыходзіць тэлеграма нейкага аптэкара з Жлобіна Г. М. Рабкіна, які скардзіцца на бясправўную канфіскацыю ў яго ровера. Пры ўсёй сваёй занятасці — краіна была ў коле блакады інтэрвентаў — Ленін адклікаецца на гэты канфлікт з роверам. Ён піша мясцовым уладам: „Неадкладна расследуйце строга і праверце. Тэлеграфуйце: калі няма спецыяльных ці ваенных прычын, то за канфіскацыю ровера будзеце пакараны“. Ленін кантралюе гэты асобны выпадак, і праз месяц, захаваўшы ў памяці здарэнне ў Жлобіне (!), вяртаецца да яго: ці ліквідавана памылка.

На Леніна былі зроблены два замахі — 1 студзеня 1918 года, калі тэрарысты-контррэвалюцыянеры абстралялі машыну, у якой Ленін вяртаўся пасля выступлення перад салдатамі Рэвалюцыйнай сацыялістычнай арміі, і 30 жніўня таго ж года — адразу пасля

**(Працяг на стар. 5)**

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ“**

**Зялёнае золата ● Яго дарогі ● Асноўнае — беларуская культура ● Чыя праўда? ● Леапольд Родзевіч ● Запіскі натураліста ● Васька ● Па слядах партацтва ● Дзядзька Квас усвядомлены ● Пра балаган на чыгунцы ● Калі ў сне абручальнае кальцо ператвараецца ў попел ● Доктар Знахарук ● Руская народная песня „По Дону гуляет казак молодой“.**

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 20 IV** — 6.30 TTR RTSS Hist. sem. IV. 7.00 Biol. sem. II. 7.30 Alarm przeciwpoż. trwa. 7.40 Now. w domu i zagr. 8.10 Emerytury dla rolników. 8.20 Telewizjada. 8.55 Program dnia. 9.00 Teleranek TDC oraz film fab. TV ang. z serii „Dick Turpin“. 10.20 Antena. 10.45 Wolne miasto — polski film fab. 12.25 Dziennik. 12.40 Rolnicze rozmowy. 13.10 Dla dzieci: Kieszonkowe przygody — cz. I. 13.45 Koncert życzeń. 14.55 Kiedy będę wielkoludem — radz. film fab. 16.20 Los. Dużego Lot. 16.30 Świat, który nie może zaginąć — ang. film dok. 17.25 Tele-echo. 18.25 Recital I. Santor. Wyst. również Z. Wodecki i grupa Pod Budą. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.10 Kariera Nikodema Dyzmy — odc. III — film fab. TP. 21.10 Spartakus — balet A. Chaczaturiana w wyk. zesp. Teatru Wielkiego z Moskwy.

**Poniedziałek 21 IV** — 12.45 TTR RTSS — J. pol. sem. IV. 13.25 Fiz. sem. IV. 15.20 Program dnia. 15.25 NURT — Naucz. pocz. kl. III. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Zwierzyniec. 16.55 Dzień dobry w kręgu rodziny. 17.25 Studio Młodych. 17.45 Ucieczka z krainy złota — odc. V filmu TV czech. 18.50 Dobranoc. 19.00 Echa stadionów. 19.30 Dziennik. 20.10 Teatr Telewizji — W. Brumel, J. Szpitalnyj „Doktor Nazarow“. 21.45 Swiat i Polska. 22.15 Mistrzostwa Europy w zapasach. 22.35 Dziennik. 22.50 Kształt słowa.

**Wtorek 22 IV** — 6.00 TTR RTSS — J. pol. sem. IV. 6.30 Fiz. sem. IV. 11.05 Czerwone, żółte. ziel. kl. I—III. 12.00 Dla szkół — Hist. kl. VIII. 12.55 J. pol. kl. V. 13.25 TTR RTSS — Mat. sem. II. 14.00 Chem. sem. II. 15.20 Program dnia. 15.25 Klub Seniora. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Studio Młodych. 16.55 Dzień dobry w kręgu rodziny. 17.20 Interstudio. 17.55 Test. 18.10 Sonda. 18.40 Radzimy rolnikom. 18.50 Dobranoc. 19.00 Recital Ż. Biczewskiej. 19.30 Dziennik. 20.10 Cham — film fab. TP. 21.35 Mistrzostwa Europy w zapasach. 21.55 Camerata. 22.20 Dziennik. 22.35 Planeta ziemia.

**Sroda 23 IV** — 6.00 TTR RTSS — Mat. sem. II. 6.30 Chem. sem. II. 11.05 Dla szkół — Hist. kl. V. 12.00 Muz. kl. I. 12.25 TTR RTSS — Mat. sem. IV. 13.25 Geogr. sem. IV. 15.20 Program dnia. 15.25 NURT — Mat. kl. V. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Dla dzieci — Baśń o zaklętym kaczorze. 17.00 Dom i my. 17.15 Dzień dobry w kręgu rodziny. 17.40 Los. Małego Lotka. 17.55 Piłka nożna Legia—Ruch. 18.50 Dobranoc. 19.00 Ekslibris. 19.30 Dziennik. 20.10 Sprzężenie zwrotne — film fab. radz. 21.45 Puchar Europy w piłce nożnej oraz Mistrzostwa Europy w zapasach. 22.45 Dziennik. 23.00 Trybuna Literacka.

**Czwartek 24 IV** — 6.00 TTR RTSS — Mat. sem. IV. 6.30 Geogr. sem. IV. 11.05 Dla szkół — Biol. kl. VI. 12.00 Nauka o czł. kl. VIII. 12.55 Muz. kl. I. 13.25 TTR Hod. zwierz. sem. II. 14.00 Uprawa rośl. sem. II. 15.20 Program dnia. 15.25 Decyzje piętnastolatków. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Czwartek TDC. 17.25 Dzień dobry w kręgu rodziny. 17.50 Studio Młodych. 18.10 Pr. wojsk. 18.35 Radzimy rolnikom. 18.50 Dobranoc. 19.00 Gra A. Słobodianik. 20.10 Powrót Swiętego — odc. pt. „Zagrożenie“. 21.05 Pegaz. 21.50 Lekarz radzi. 21.55 Wszystko za wszystko z K. Musiałem twórcą festiwalu opolskiego. 22.55 Dziennik.

**Piątek 25 IV** — 6.30 TTR Hod. zwierz. sem. II. 6.30 Uprawa rośl. 11.05 Wych. ob. kl. VII. 12.00 Wych. ob. kl. VIII. 12.55 Geogr. kl. VII. 13.25 Hod. zwierz. sem. IV. 14.00 Upr. rośl. sem. IV. 15.05 Red. szkol. zap. 15.20 Program dnia. 15.25 NURT — Psych. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Dla dzieci. 16.55 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 17.15 Magazyn motor. 17.35 Studio Młodych. 17.55 Czterdziestolatek — odc. pt. Nowy zastępca, czyli meteor — film fab. TP. 18.50 Dobranoc. 19.00 Studio 2.

**Sobota 26 IV** — 6.00 TTR Hod. zwierz. s. IV. 6.30 Upr. rośl. s. IV. 7.00 J. pol. s. II. 7.30 Fiz. s. IV. 11.05 Pr. dla najmłod. 12.00 Fiz. kl. VI. 13.10 Program dnia. 13.15 Radzimy rolnikom. 13.25 Obiektyw. 13.45 Dziennik. 14.00 Magazyn lotniczy. 14.30 Orbita. 15.00 Studio 2. (ur)

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 18 IV** — 8.35 Film fab. ser. 9.50 Koncert. 18.45 Film fab. 20.35 Hokej. Szwecja—ZSRR.

**Sobota 19 IV** — 9.50 Festiwal filmów białoruskiej TV. W świecie zwierząt. 18.10 . Film fab. 20.35 Koncert.

**Niedziela 20 IV** — 13.00 Film fab. 15.00 Klub podróży. 17.00 Panorama międzynar. 20.35 Jazda fig. na łyżwach.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

**Беларуская радыёперадача: субота 12.05 — 12.25 (UKF).**

## КІНО

**Białowieża** Wendetta — fr. 22—23. Policja przygląda się — wł. 24—25. Ognie są jeszcze żywe — pol. 26—27.
**Bielsk Podl.** Flic story — fr. 21—22. Tene se Scatiu — rum. 23—24. Zemsta różowej pantery — ang. 25—27.
**Czyże** Na cichej stacyjce — węg. Zabójstwo chińskiego maklera — USA 23—27.
**Gródek** Konwój — USA 26—27.
**Hajnówka** Wersja pułkownika Zorina — radz. 22—23. Stepowy rumak — radz. 24—25. I ty zobaczysz niebo — radz. 26—27.
**Michałowo** Wyspy na Golfstromie — USA 22—23. Barreco — fr. 24—25. Nagonka — jug. 26—27.
**Mielnik** Godziny miłości — szwedz. 23. Roman i Magda — pol. 26—27.
**Milejczyce** ... droga daleka przed nami — pol. Kieszonkowiec — fr. 23—27.
**Narew** Młody Frankenstein — USA. Bronić będziemy — pol. 23—27.
**Narewka** Śmiertelny pościg — fr. Ciepło — buł. 23—27.
**Nurzec** Nasz nowy braciszek — NRD 22—23. Szansa — pol. 24—25. Cudowni mężczyźni z korbką — czes. 26—27.
**Orla** W cieniu legendy — węg. Amator — pol. 23—27.
**Rajsk** Skradziona kolekcja — pol. Szczęście jest tak blisko — rum. 23—27.

 

**ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ**

# ХТО МАЕ ГЭТЫМ ЗАНЯЦЦА?

Ехаў я шашой з Беластока ў Кляшчэлі праз Бельск, а назад — праз Гайнаўку. У Кур'янах, Плёсках, Храбалах, Грабаўцы, Істоку, Парыеве і Дубінах на аўтобусных прыпынках ПКС разбураны пачакальні. Усе яны пахнуць яшчэ свежай фарбай. Але сцены з люсфераў (здаецца так называюцца квадрацікі з узмоцненага драцяной сеткай шкла даволі вялікай таўшчыні) свецяцца дзіркамі або зусім іх няма. Паглядзеў я, дзе тое пабітае шкло, аказваецца яго няма, або, мабыць, яго засыпала снегам. Не выпадала грабсці мне сумёты, ды і наўрад ці там знайшоў бы я гэтыя люсферы. На мой погляд, гэта „спраўка“ не толькі хуліганаў, але і зладзеяў. Аказваецца, што люсфераў няма ў продажы. Аднак ёсць яны ў сценах пачакальняў. Не буду пісаць, як лёгка разабраць сцяну (аб гэтым расказвалі мне вучні пачатковай школы і нефахоўцы па ліквідацыі лёгкіх, эстэтычных і відных сцен пачакальняў). Значыць, гэты будаўнічы матэрыял ідзе адсюль у сцены новых мураванак? Яго крадуць? Але хто мае сачыць за гэтым? Калі невядома і тое, хто мае наводзіць парадак навокал гэтых аўтобусных прыпынкаў. Гмінныя ўлады задумваюцца, як вырашыць справу апекі над імі. Хто мае гэта рабіць? У вёсцы, напрыклад, у Дубінах, на прыпынку вялікі балаган. Каго абавязаць тады, каб падмёў ды ўвогуле наводзіў парадак? Хто мае рамантаваць лавачкі, разбураныя сцены, растаптаныя кашы на смецце? Адкуль узяць на ўсё гэта фінансавыя сродкі?

З аднаго боку, пачакальні, асабліва ў полі, але і ў вёсках, рэч карысная. З другога боку, іх безупынна нішчаць. Хто? Не ведаю. За руку не злавіў. Ды гэта ж бачыць той, хто прыходзіць на прыпынак і чакае аўтобуса! Або нават і той, хто праходзіць міма. Хто тутэйшы, мясцовы. Каму нават неаднойчы даводзілася бачыць, як „моладзь“ „забаўляецца“ ў пачакальні. І каму вядомы прозвішчы вандалаў. Такая неахайная пачакальня — сорам вёсцы, яе жыхарам, солтысу, мясцоваму грамадскаму дзеячу, грамадскай арганізацыі. Дык за ўчынкі хуліганаў адказны мы ўсе і кожны з асобна. Не думаю, каб была гэта бязвыхадная сітуацыя.

Не буду дэталёва апісваць выгляд пачакальняў на спамянутых прыпынках. Іх вы можаце самі ўбачыць. Не ўсюды ж я пабываў. Паглядзіце, кіньце вокам, як ёсць у вас. Колькасць паганых пачакальняў павялічваецца. Варта падумаць, што тады рабіць. Ці не любы вам парадак і чысціня? Прыезжыя нетутэйшыя людзі па выглядзе пачакальні могуць дадумвацца, хто тут жыве. Якія вы. Не падаў я прыкладаў, дзе ёсць задбаныя пачакальні, дзе ажно любата. Але ў канцы свайго выступлення на старонках газеты падам прыклад асабліва запушчанага выгляду пачакальні. Гэта прыклад з ранейшай паездкі ў Орлю. Іменна там пачакальня адведзена на... нужнік. Цікавіць вас, пэўна, месца, у якім яна знаходзіцца. Дык вось у самым цэнтры гэтага даволі вялікага мястэчка. Насупраць яе — ап-

(Працяг на стар. 4)

# АПЕКА НАД ДАШКОЛЬНІКАМІ

Толькі да канца красавіка працягваецца прыём заяў аб прыняцці дзяцей у прадшколлі ўсіх тыпаў на наступны навучальны год. У гэтым тэрміне зацікаўленыя бацькі павінны звярнуцца ў бліжэйшае па месцу жыхарства прадшколле.

Варта прыгадаць некалькі фактаў, звязаных з апекай над малышамі.

На тэрыторыі Беластока на сённяшні дзень налічваецца 14 тысяч дзяцей прадшкольнага ўзросту. У гэтым годзе ў рознага тыпу прадшколлях выхоўваецца 9.250 дзяцей ва ўзросце ад трох да шасці год. Гэтай колькасці месц абсалютна замала ў параўнанні з патрэбамі.

З увядзеннем школьнай рэформы, якая прадугледжвае пэўную падрыхтоўку дзяцей, прыходзячых у першы клас, пэўны ўзровень развіцця, усе дзеці-шасцігодкі павінны быць ахоплены прадшкольным выхаваннем. Гэта ажыццяўляецца шляхам спецыяльнай праграмы навучання дзяцей у апошніх, старэйшых групах прадшколля або абавязковымі заняткамі ў так званых нулявых класах школы, прадшкольных аддзяленнях ці агнісках.



*У прадшколлі ТПД на вул. Падэдворнага ў Беластоку.*

Каб хоць трохі зменшыць напор дзяцей у дзяржаўныя прадшколлі, каб пры гэтым неяк дапамагчы бацькам арганізаваць апеку над малымі, Таварыства сяброў дзяцей разам з Куратарыяй асветы і выхавання, а таксама ў супрацоўніцтве з беластоцкімі жыллёвымі кааператывамі арганізавала так званыя грамадскія прадшколлі, дзе бацькі бралі на сябе поўны кошт утрымання прадшколля. Цяпер ужо выхавацаў дае і іх аплачвае аддзел асветы, дзяржава прызнае пэўную суму на абсталяванне, а жыллёвыя кааператывы і іншыя прамысловыя прадпрыемствы памагаюць, чым могуць.

Цяпер існуе восем прадшколляў ТПД (дзяржаўных — 49) у розных раёнах горада. Чатыры з іх — пад патранатам і ў будынках жыллёвага кааператыва „Захэнта“, два — у Беластоцкім жыллёвым кааператыве (БСМ), і па адным у „Радзіне каляёвай“ і ў „Вялікаблокавай“. Два з гэтых прадшколляў знайшлі сабе апекуноў сярод прамысловых прадпрыемстваў. Напрыклад, камбінат „Унітра-Бязэт“ даў памяшканне і давозіць дзяцей з горада, мясны камбінат арганізаваў у сябе харчаванне для прадшколля ТПД на вул. Славянскай. Добра было б, каб і іншыя прадшколлі знайшлі сабе апекуноў. Няхай бы і іншыя ўстановы ўключыліся ў дапамогу тым прадшколлям, асабліва ТПДоўскім, дзе выхоўваюцца дзеці іх рабочых. А трэба ведаць, што ў грамадскіх прадшколлях фінансавы ўдзел бацькоў значна большы, чым у дзяржаўных. Сёння месячная аплата ў грамадскім прадшколлі складае 600 злотых за адно дзіця. Часта здараецца, што ў прадшколле аднача́сова ходзяць двое малых з адной сям'і, і тады гэтая ж сума падвойваецца. На некаторых прадпрыемствах дырэкцыям неяк удаецца выгаспадарыць з сацыяльнага фонду нейкую суму грошай, каб дапамагчы бацькам у аплатах за прадшколлі.

Але нават тыя бацькі, а іх большасць, што плоцяць поўную стаўку, цешацца, што іх дзеці знаходзяцца пад добрай апекай. Асабліва прыемная атмасфера ў малых, аднагрупных прадшколлях. Такія месцяцца ў звычайных жылых будынках, займаючы на партэры тыповую кватэру М-5 або М-6. Невялічкая групка дзяцей (да 30 чалавек) пад апекай вопытнага педагога адчувае сябе тут бяспечна і ўтульна. Дзеці прыходзяць сюды з уласным снеданнем, з так званай канапкай, тут атрымліваюць чай, каву, малако ці малочны суп. Абед прывозяць з суседняга прадшколля. Тут дзеці гуляюць, адпачываюць пасля абеду — лежакуюць, вучацца размаўляць, лагічна думаць, малююць, лічаць, танцуюць і спяваюць. І ўсё гэта робіцца ў вельмі дамашніх умовах, неяк так спакойна тут і прытульна, без вялікапрадшкольнага гуду, тупату і крыку.

Гледзячы, як малыя тут гуляюць і вучацца, прыходзіць нясмелая думка: а можа іменна такая форма апекі над малымі была б найлепшай? Вось каб такі куточак, з такой адукаванай і сардэчнай да малых выхавацелькай быў у кожным вялікім шматкватэрным доме! Каб кожная маці магла без клопатаў са спакоем аддаць дзіця на паўдня? Вось было б радасці ўсім мамам!

**Яніна Чэрнякевіч**

Фота аўтара

# ХРОНІКА

■ Нядаўна на справаздачна-выбарным сходзе ў Старым Корніне (гміна Дубічы Царкоўныя) члены БГКТ абмеркавалі наступныя пытанні: грамадскім чынам правесці рамонт спартыўнай пляцоўкі, падрыхтаваць „Зялёную святліцу“, супольна з ЛЗС арганізаваць футбольную каманду, наладжваць танцавальныя вечарыны, а за атрыманыя грошы купіць спартыўнае абсталяванне. Гурток БГКТ налічвае тут 45 членаў. Прысутны на сходзе дырэктар мясцовай школы Аляксандр Сегень сардэчна падзякаваў нашым сябрам за дапамогу ў падрыхтоўцы школьнай спартыўнай пляцоўкі, а старшыня сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва Аляксей Тамашук — за дапамогу ў выкопках бульбы. У праўленне гуртка БГКТ выбраны наступныя асобы: Аляксей Шэшка — старшыня, Варвара Тамашук — намеснік старшыні, Анна Далінская — сакратар, Галіна Ручай — скарбнік, Анна Вільчэўская, Юрка Тамашук, Марыя Сурэль, Анна Саўчук, Міхал Куптэль — члены праўлення. Дэлегатам IX з'езду БГКТ выбраны Лявон Шэшка.

■ Гурток БГКТ у Ягадніках (гміна Дубічы Царкоўныя) складаецца з 31 члена. Падчас дыскусіі найбольш увагі было прысвечана неабходнасці рамонту дарогі, якая вядзе праз вёску. У склад праўлення ўвайшлі: Аляксей Сурэль (ён таксама выбраны дэлегатам на з'езд БГКТ) — старшыня, Уладзімір Сурэль — намеснік старшыні, Рыгор Назарук — сакратар, Іван Сурэль — скарбнік, Іван Красько, Вера Несцярук, Надзя Куптэль і Надзя Далінская — члены праўлення.

■ У Чыжыках (гміна Чыжы) у гуртку БГКТ 36 чалавек. Прапановы для далейшай працы: арганізаваць мастацкі фальклорны калектыў, наладзіць у Чыжыках выступленне вакальнага калектыву „Каласкі“ з Беластока. У новае праўленне выбраны: Васіль Ягадніцкі — старшыня, Васіль Ягадніцкі — намеснік старшыні, Люцына Тыханюк — сакратар, Іван Іванюк — скарбнік, Сяргей Тамашук, Іван Іванюк, Васіль Якімюк і Яўген Паплаўскі — члены праўлення. Сход абслужыў член прэзідыума ГП БГКТ Вінцук Склубоўскі.

■ Са справаздачным дакладам у Малочках (гміна Боцькі) выступіла Ірына Амельянчук, а з праектам плана працы — Галіна Барташук. У дыскусіі выступілі: Галіна Барташук, Ірына Саўчук, Сцяпан Барташук і Вера Гапанюк. Пастаноўлена павялічыць у вёсцы колькасць падпісчыкаў „Нівы“, звярнуць увагу на чытанне беларускіх кніжак, намагацца арганізаваць тэатральную групу і павялічыць колькасць сустрэч з літаратарамі, пішучымі на беларускай мове, і журналістамі „Нівы“. На гэтым сходзе 20 асоб выказала жаданне ўступіць у рады БГКТ і ўсе яны падпісалі членскія дэкларацыі БГКТ. Новае праўленне гуртка прадстаўляецца наступна: Галіна Барташук — старшыня, Сцяпан Федарук — намеснік старшыні, Сцяпан Максімюк — сакратар, Ірына Амельянчук — скарбнік. На з'езд БГКТ паедзе Ірына Саўчук.

■ Гурток БГКТ у Нурцы-станцыі закранаў наступныя справы: павялічыць падпіску беларускіх часопісаў, перш за ўсё на тыднёвік „Ніва“, прасіць ГП, каб ізноў прывозіла савецкія фільмы. 9 асоб падпісала членскія дэкларацыі БГКТ. Праўленне складаецца з: Мікалая Пашкоўскага, якога аднача́сова выбралі прысутныя дэлегатам на з'езд БГКТ, Раісы Дрывульскай — намесніка старшыні, Аляксандра Іваноўскага — сакратара, Яўгеніі Барташук — скарбніка і Анатоля Касцюка — члена праўлення. Сход абслужыў Міхась Вішанка, інспектар ГП.

■ На апошнім пасяджэнні Прэзідыума ГП БГКТ (адбылося 27 сакавіка) на павестцы дня былі наступныя пункты: 1. Прыняццё праекта справаздачы аб дзейнасці БГКТ і праграмы дзейнасці ў новай кадэнцыі. 2. Ацэнка справаздачна-выбарнай кампаніі ў гуртках БГКТ. 3. Арганізацыйныя справы. **(МХ)**

**Беларуская ЛІТАРАТУРА** — АЛЯКСАНДАР БАРШЧЭЎСКІ

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЯКУБ КОЛАС — ЧАСТКА LXIX

Апрача прадстаўленых намі дагэтуль праблем, у „Казках жыцця“ выступае не мала іншых пытанняў. Да такіх належаць перш за ўсё маральна-этычныя праблемы. Пісьменнік цікавіцца тут паняццямі дабра і зла, праўды і маны, жыцця і смерці. Навелы, прысвечаныя гэтым пытанням, належаць да твораў, моцна зашыфраваных і многазначных. Не рэдка здараецца, што пытанне, пастаўленае ў адным творы, атрымоўвае адказ у другім або не атрымоўвае яго ўвогуле. Бадай што найчасцей Колас атоесамлівае дылетанцтва і няведы са знешнім фальшывым шчасцем і даказвае, што сапраўднае шчасце, якое ёсць вынікам пазнання істоты рэчаў, можа быць толькі вынікам выключнага ахвярніцтва. Гэта праблема выступае ў размове, якую вядзе вецер і хвоя. „А як табе здаецца, хвоя, — спытаў вецер, — што лепей: пражыць свой век ціха, спакойна, не пазнаўшы, як міла жыццё, ці пазнаць яго хараство і вартасць цаной вялікага няшчасця?“

З вялікай адкрытасцю і шчырасцю займаецца Колас гэтай праблемай у навеле „Што лепш“. Зразумела, што размова, якая вядзецца ў гэтым творы паміж дубамі, датычыць не дрэў, а людзей. Вось выказванне старога дуба, які звяртаецца да сваіх таварышаў:

„Але зірніце трохі далей, гляньце на тую стужку бліскучай вады, што так зграбна апярэзвае лес. Я бліжэй стаю да яе і бачу больш за вас. Усё дно яе выслалі дубовыя трупы. Некалі і яны былі здаровымі, крэпкімі, радаснымі. А дзе яны, дзе нашы сябры, разлажыстыя тоўстыя дубы?.. І ці не тая самая доля чакае нас?

Гэта была праўда, і змоўклі вясёлыя дубы, і вялікі смутак агарнуў іх... Замоўклі радасныя іх спевы, шэпты, жаласна загудзелі верхавіны.

— Ну, нашто ты адабраў ад іх радасць, дуб-бацька, — спытаў строга яго прыяцель, — раскрыўшы ім вочы?

— Лепш быць няшчасным, але відушчым, чымся шчаслівым, ды сляпым, — адказаў дуб“.

Амаль што ніколі сам пісьменнік не выказваецца непасрэдна наконт пастаўленых праблем ці пытанняў. Таму досыць цяжка сказаць, ці атоесамліваецца ён з выказваннем старога дуба. Аднак, беручы пад увагу ўсю спецыфіку „Казак жыцця“, можна думаць, што з'яўляюцца яны формай „адкрывання вачэй“. Пісьменнік, ставячы разнародныя праблемы, стараецца прымусіць чытача да мыслення, аналізу, развязак. Колас — праціўнік самазадаволенасці і шчасця, атоесамленых з паверхнасным разуменнем спраў, а тым больш з якой-колечы фальшывасцю. Пісьменнік прапануе тэзіс, што сапраўднае шчасце заўсёды адназначнае з ахвярніцтвам, рэзыгнацыяй і перш за ўсё з праўдай, незалежна ад таго, як горкі мае яна смак і характар.

З „Казак жыцця“ вынікае адназначны вывад: галоўная мэта чалавека заключаецца не ў тым, каб існаваць, каб дбаць аб матэрыяльным боку свайго жыцця, а ў тым, каб заўсёды імкнуцца разгадваць сэнс свайго побыту, канфрантаваць розныя ідэі і прынцыпы і такім чынам удасканальваць сваю душу.



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## ГАСПАДАРНАСЦЬ НА ПАСЁЛКАХ

Кожны жыхар горада хоча, каб на яго пасёлку ўсё было добра, каб быў прыгожа загаспадараны, каб было многа дрэў, раслін і кветак. Адным словам, кожны хоча, каб быў парадак. Як цябе бачаць, так пра цябе і напішуць. Вельмі ж многа тут залежыць ад саміх жыхароў пасёлка. Многа яшчэ ёсць недахопаў, а ўсё ж нашы пасёлкі з году ў год змяняюцца, прыгажэюць.

Арганізуюцца спаборніцтвы на званне найлепшага пасёлка ў ваяводстве. У 1979 годзе ў такім спаборніцтве Ваяводскай жыллёвай спулдзельні ў Беластоку ўдзельнічала 22 жыллёвыя пасёлкі. Падзялілі іх на дзве групы — на вялікія і малыя. Вялікія пасёлкі гэта такія, якія маюць больш 70 тысяч квадратных метраў жылой плошчы, а малыя — да 70 тысяч квадратных метраў. У групе вялікіх пасёлкаў было 7, а ў групе малых — 15.

Камісія зрабіла ацэнку спаборніцтва. У групе вялікіх пасёлкаў першае месца заняў пасёлак „Пяста I“, а два другія месцы — пасёлкі: „Тысячагоддзя“ і „Антанюкоўскія Сады“. Усе пасёлкі з горада Беластока.

У групе малых пасёлкаў першае месца заняў пасёлак „Выгода“ ў Беластоку, другое — пасёлак у Моньках і трэцяе — пасёлак „Гайнаўка II“.

Цікава, як адчуваюць сябе жыхары гэтых добрых пасёлкаў? У іх яшчэ многа работы, калі яны хочуць у будучыні ўтрымаць такія добрыя месцы.

На гэтым жа пасяджэнні камісія ацаніла дасягненні па спаборніцтву паміж жыллёвымі спулдзельнямі Беластоцкага ваяводства. У спаборніцтве прымала ўдзел 16 спулдзельняў. Першае месца заняла спулдзельня „Захэнта“, другое — „Вялікаблокавая“, трэцяе — БСМ, усе тры з Беластока. Не абазначае гэта, што іншыя спулдзельні ці іншыя пасёлкі працуюць дрэнна. Калі мы — усе жыхары, возьмемся за працу на тэрыторыі нашых пасёлкаў, у сваім асяроддзі, то прынясе гэта, несумненна, высокі плён. Тады напэўна і пераставяцца месцы. Хто быў апошнім, можа стаць першым. А гэта ж вельмі патрэбна, каб жыццё наша пастаянна ішло наперад, каб нам усім жылося лепш.

**В. Брацкі**

## ПІЦЬ НАВУЧЫЎСЯ ЗАМОЛАДУ

Піць гарэлку я навучыўся, калі мой татка „гідраўлікам“ быў. Тады ён вырываў пліту ў печцы і на гэтае месца мураваў нешта падобнае да малой бочачкі. А побач печкі ставіў дзве вялікія бочкі і спалучаў трубкамі. У адну вялікую нешта налівaў, шчыльна закрываў і падпальваў у печы. І калі толькі выкурыў папяросу, тады ўсё ажыло. Пачало шумець і кіпець. А ў гэтай вялікай бочцы, у якую татка чагосьці наліў, пачало так гургатаць, быццам чэрці вяселле спраўлялі. Вось тады браўся я за жывот і круціўся датуль, пакуль цюрком не пацякла гарэлка (першачком звалі). Татка браў кілішак і падстаўляў пад трубку, даваў мне, мабыць, лякарства. Я да дна выпіваў і дзякаваў татку. Боль праміна́ў раптоўна. Калі я падрос крышку, тады з гэтым клопату не было. Гаварыў я проста: „Татку, дай гарэлкі!“

Але праз нейкі час каля нас спынілася машына, бацька гаварыў, што госці прыехалі. Забралі бочкі, трубкі, толькі бацькі яшчэ не бралі. Праз нейкі час зноў татка сказаў, што паедзе ў санаторый на лячэнне. Бацька, калі першыя крокі рабіў па сваёй прафесіі, то ў гэтай бочцы так чэрці пачалі гуляць, што парвалі бочку і татку ашпарыла „брагаю“. І паехаў на два гады. Потым забыў сваю прафесію.

Сёння гэтая „сталовая“ ці, напрыклад, з „каласочкам“ дык што гэта за гарэлка? А „каньяк“? Дык у ім і смаку ніякага няма. А вось, калі возьмеш, напрыклад, з сіняй наклейкай з белай галовачкай, з дзвюма костачкамі скрыжаванымі — гось гэта гарэлка! Не дарагая, а добрая. Як кілішак жарнеш, дык як малаточкам у галаву стукне.

Толькі бяда ў тым, што ад сіняй гарэлкі нос пасінеў і хто на яго не гляне, дык адразу і кажа: „Ну, гэты, то сапраўдны п'яніца!“

**Сам**

## ЗБЕРАГАЙМА СВАЁ БАГАЦЦЕ!

Вярнуўся дахаты змучаны. Захацелася паглядзець беларускія тэлеперадачы з Брэста. Даволі часта ўключаю гэтую станцыю. І цяпер трапіў добра. Якраз спявалі цудоўную старынную песню. Аж душа затрапятала ад радасці, ад слоў той песні, ад душэўнай мелодыі! Маліўся я ў думках, каб перадача не закончылася хутка.

Яна працягвалася і называлася „Запрашаем на вячоркі“. У перадачы выступалі старэйшыя мужчыны і жанчыны ў народных беларускіх касцюмах. Быў і музыкант са старадаўным, невялічкім гармонікам, якіх многа сустракалася і ў маёй ваколіцы пасля вайны.

І ў мяне ў вачах пачаў рысавацца цёплы вобраз мінулага. Вясковае вяселле з цудоўным караваем і з багатымі абрадамі, дзявочыя вечарынкі, так званае ў нас „пакудзелле“, хрысціны, а нават даўнейшыя танцы. Успомніў я кароткаметражны фільм варшаўскай кінастудыі па сцэнарыю Мікалая Гайдука п. з. „Беларускае вяселле“. Гэтага фільма і гэтага „Пасынскага вяселля“ я ніколі не забуду! Не забуду ўсяго таго, што дарагое майму сэрцу. Не забуду багацця нашай народнай культуры! Якая шкода, што гэтая цудоўная культура знікае, а яе месца займае сучасная, крыклівая музыка і песні, са словамі неаднойчы ні да ладу, ні да складу (як сказаў Дзядзька Квас), што нашы вясковыя вяселлі становяцца звычайным „ахляем“, а народны абрад застаецца толькі сном, што не вернецца, мабыць, ніколі да нас прыгажосць даўнейшых убораў, што... што... Ды няма што пералічваць таго, што не вернецца.

Ці ж сапраўды не вернецца?! А мо б так падумаць і пачаць зберагаць усё тое, што так мілае нашаму сэрцу, што прыгожае нашаму воку, што складае часцінку нас саміх? Ёсць сярод нас людзі, якія стараюцца падтрымаць і захаваць даўнейшую культуру, даўнейшую песню (сярод іх — нястомны Мікалай Гайдук са сваім фальклорным акенцам у „Ніве“). Давайце падтрымаем іх, паможам. Мо супольнымі сіламі даб'емся таго, што даўнейшыя абрады і даўнейшыя песні завітаюць у сучасныя нашы кватэры, стануць часцінкай штодзённага жыцця чалавека нашага дваццатага стагоддзя.

**Ул. Сідарук**

## ПРА ГАЙМАХЛЕС

28 гадоў таму назад у Гайнаўцы на базе рамонтных варштатаў лясных чыгунак было створана новае прадпрыемства — Гаймахлес — Гайнаўскае прадпрыемства лясных машын. На пачатку тут працавала 120 рабочых, цяпер 532, у тым ліку 89 жанчын. Ужо тры гады прадпрыемствам кіруе Тадэуш Шаняўскі, добры арганізатар і дбайны гаспадар. Нягледзячы на цяжкую зіму, у мінулым годзе рабочы калектыў Гаймахлесу выканаў свой план у 104%, што абазначае, што выпрадукавалі яны розных вырабаў на суму 25 мільёнаў зл.

Прадпрыемства мае ўласныя яслі на 120 месц. Будынак ясляў стаіць на скраі Белавежскай пушчы, дзеткі маюць тут дасканалыя ўмовы росту і выхавання. Прадпрыемства мае свой уласны аўтобус, на якім рабочыя ездзяць на розныя экскурсіі. Была арганізавана турыстычна-краязнаўчая экскурсія ў Познань і Зялёную Гуру, у Варшаву, у адпачынковы цэнтр у Рыбаках. Ездзілі па грыбы.

**Э. Вайсковіч**

## З ПРАЦ ГМІНЫ Ў НАРАЎЦЫ

У выніку выбарчай кампаніі ў Сейм і Ваяводскія рады нарадовыя, у выніку сустрэч з насельніцтвам, гміна ў Нараўцы сабрала галасы, якія гавораць аб патрэбах гэтай гміны. Вось некаторыя з іх. Маем два пункты ЦПН, а па этылін для матора ці самахода трэба ехаць у Гайнаўку. Няма цырульніка. Паміж Старым і Новым Ляўковам не асветлена вуліца. На керамічным заводзе няма святліцы. Трэба рамантаваць кіно. Трэба падумаць, што рабіць з мясцовым барам і гэтак далей. Гэта толькі некаторыя праблемы сучаснага жыцця гміны. Шмат ёсць работы!

Пра ўсе гэтыя справы гаварылі з поўнай гаспадарскай адказнасцю. Некаторыя з іх гмінныя ўлады адразу пачалі рэалізаваць. Іншыя, больш складаныя, будуць разглядацца ў Ваяводскай радзе. Гміна наша з яе працавітымі жыхарамі ўсе іх вырашыць для агульнай карысці.

**А. З.**

## ПРАЗ ЛЕС

Яшчэ перад вайной была пабудавана вузкая лясная чыгунка праз пушчу. Чыгунка даходзіць аж да Тапіла, да Белавежы, да Нараўкі і ў Лядскую пушчу. Каля чыгункі лясныя рабочыя складаюць выpy бленыя жэрдкі, бярвёны і драўніну на топліва.

Кожны дзень, ужо 50 гадоў, брыгады рабочых сядаюць у першы вагонік „цюхці“ і едуць у лес, адкуль прывозяць драўніну на гайнаўскія прадпрыемствы. Тыя ж вузкачыгуначныя паязды — „цюхці“ вазілі жыхароў горада летняй парой у лес па грыбы і ягады. Усе мы так прывыклі да свісту, сапання, да дыму і пары тае „цюхці“, што аж не хочацца забываць пра яе.

Іду я па рэйках лясных чыгунак і бачу, на бакавых рэльсах стаіць у адным радзе пяць паравозікаў, якія перайшлі на заслужаны адпачынак. Па шляхах лясной чыгункі пайшлі цяпер газавыя паравозікі.

Кіраўніцтва лясных чыгунак для памяці пакаленняў адзін даўнейшы паравозік, як помнік, паставіла на клумбе перад сваім будынкам. На лавачцы тут сядаюць цяпер старыя жыхары і рабочыя, успамінаюць, як яны ездзілі гэтымі паравозікамі па ўсёй Белавежскай пушчы.

**Вірскі**

## ЧАЙ ЦІ ПАМЫІ?

Быў марозны ветраны дзень. Будучы ў Гайнаўцы, зайшла я ў сталовую паабедаць, а было яшчэ ранавата. Рашыла пачакаць. І вось прыйшла старэйшая жанчына і папрасіла шклянку чаю. Прысела яна ля століка, уложыла ў шклянку чай і цукар, а калі памяшала, выйшаў той чай без колеру, з белай пенай наверсе. Занесла яна той чай да прылаўка. Пані, якая яе абслугоўвала, абыякава заявіла: „Я не з таго чайніка наліла“. Нават „прабачце“ не сказала. Прыйшла тая жанчына да століка з новым чаем з другога чайніка. Хоць пены не было, але вада была толькі летняя, нават цукар не расставаў, і чай не пусціў колеру. І кажа тая жанчына мне: „Хацела выпіць гарачага чаю і пагрэцца, а далі памыі“. Не пакаштаваўшы і не змагаючыся ўжо далей, жанчына выйшла.

**В. Я.**




**Дзмітры Яканчук,** Дубяжын. „Чамусьці ў апошні час не даходзіць да мяне „Ніва“. Пісьманосец тлумачыцца, што не прыслалі з рэдакцыі. Зрабіце нешта, каб газету мне прыносілі. Каб мець усе нумары, я купіў некаторыя ў кіёску ў Бельску, але не ўсе...“

Высніць хочам, што рэдакцыя не высылае газет, займаецца гэтым пошта і „Рух“. І калі нехта не атрымлівае сістэматычна падпісанай „Нівы“, як у даным выпадку, гэта абсалютная віна пісьманосца або пошты. Іншага тлумачэння няма. У сваю чаргу, мы звяртаемся да пошты ў Грыгораўцах з просьбай даручаць выпісаныя „Нівы“ каму трэба і не падводзіць людзей.

**У. Гарустовіч,** Гайнаўка. „На вашу прапанову напісаць што-небудзь я б ахвотна згадзіўся, калі б умеў граматычна пісаць па-беларуску. Чытаць умею і гаварыць умею, а напісаць баюся. Калі вы знойдзеце каго-небудзь з працаўнікоў „Нівы“, хто б мог перакласці з рускай на беларускую мову, то я буду прысылаць вам дзе-што. У атрыманні ганарару я не зацікаўлены і ахвотна аддам яго перакладчыку“.

А вы пераламіце сваю боязь і смела наперад! Калі спатрэбіцца, без ніякага ганарару паправім вас і стылістычна, і граматычна. Ды ўсё ж верым, што вы па-беларуску добра пішаце. Адрас нашага карэспандэнта з Гайнаўкі, вельмі добрага, падамо вам пісьмом.

**У бібліятэцы** Галоўнага праўлення БГКТ не хапае экз. „Нівы“ № 9 за 1979 г. і 2 экз. № 14 за 1979 г., каб скамплектаваць гадавік. Хто можа просім выслаць гэтыя нумары па адрасу: ГП БГКТ Беласток, вул. Варшаўская 11.

## З ЖЫЦЦЯ БГКТ У ВАРШАВЕ

19 сакавіка г.г. др Міхась Кандрацюк выступіў з дакладам „Паходжанне назваў беларускіх вёсак на Беласточчыне“. Даклад выклікаў такое жывое зацікаўленне сярод слухачоў, што др Кандрацюк прадоўжыць гутарку на гэтую тэму на наступнай сустрэчы.

29 сакавіка г.г. адбылося пленарнае пасяджэнне прэзідыума і праўлення гуртка БГКТ у Варшаве. Прысутныя выслухалі кароткую справаздачу аб працы рады клуба, з якой выступіла Оля Парфенюк. Рада клуба ўключылася ў падрыхтоўку і правядзенне навагодняй сустрэчы членаў і сімпатыкаў БГКТ, праводзіць танцавальныя вечарыны ў памяшканні таварыства на Сенатарскай, кіруе працай харавога і інструментальнага мастацкіх калектываў, а таксама дапамагае ў правядзенні рознага роду культурных мерапрыемстваў, планаваных прэзідыумам гуртка БГКТ у Варшаве. Заслугай рады клуба з'яўляецца таксама прапаганда дзейнасці Беларускага таварыства, у выніку якой на працягу чатырох апошніх месяцаў у рады БГКТ прынята 62 асобы.

Абмеркаваны таксама і прыняты даклад на справаздачна-выбарную канферэнцыю гуртка БГКТ у Варшаве.

**В. Ш.**

## ТРЭБА НАПРАВІЦЬ

Набліжаецца вясна. Неабходна, каб меліярацыйная суполка ў Орлі правяла прачыстку мосцікаў і пропускаў. На палях сяла Крывяцічы ёсць таксама месцы, дзе заплылі мулам дрэнажныя трубы. У гэтых месцах збіраецца шмат вады, так што вясной нельга загаспадарыць гэтыя месцы. На дарозе з Орлі ў Крывяцічы ёсць некалькі праездаў з бетонных кругоў, большасць з іх ужо ў надта кепскім тэхнічным стане. Неадкладна трэба правесці рамонт гэтых праездаў. Праз іх сяляне не змогуць вясною праехаць на свае палі, звезці збожжа і ўгнаенні.

**Іван Кірызюк**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да публікацыі: „КАМУ ГЭТА ПАТРЭБНА“, „Ніва“ № 6 (1250) ад 10.II.1980 г.**

**Адказвае: PAŃSTWOWY WOJEWÓDZKI INSPEKTOR SANITARNY DLA WOJEWÓDZTWA BIAŁOSTOCKIEGO.**

Woda z sieci wodociągowej w Bielsku Podlaskim zawiera ponad normatywną zawartość żelaza. Każda wytwórnia zobowiązana jest do zainstalowania odżeleziacza. Sprawą właściciela jest dbanie o odpowiednią konserwację i wymianę masy filtracyjnej. Obowiązku tego nie dopełniła Wojewódzka Spółdzielnia Spożywców w Bielsku Podl., przez co nastąpiło pogorszenie jakości wody poprzez zwiększenie zawartości żelaza w wodzie do 3,5 mg/l (norma 0,3 mg/l).

Postępowanie administracyjno-egzekucyjne miało na celu uzyskanie w wytwórni wody dobrej jakości. Nie dało to rezultatów, ze względu na opieszałość zobowiązanego. W tym stanie rzeczy Państwowy Wojewódzki Inspektor Sanitarny w Białymstoku wydał decyzję wstrzymania czynności saturatora w dniu 24 XII.1979 r. Dopiero wtedy Wojewódzka Spółdzielnia Spożywców w Bielsku Podl. przystąpiła do skutecznego wykonania poleceń Państwowego Terenowego Inspektora Sanitarnego i w dniu 18.01.1980 r. uzyskano wodę dobrej jakości. W dniu 21.01.1980 r. wydano zezwolenie na uruchomienie produkcji.

Państwowy
Wojewódzki Inspektor Sanitarny
**z up. lek. Zbigniew Bujnowski**

**Да публікацыі: „ТРЭБА АШЧАДЖАЦЬ ЭЛЕКТРАЭНЕРГІЮ“, „Ніва“ № 4 (1248) ад 27.I.1980 г.**

**Адказвае: ZAKŁAD ENERGETYCZNY BIAŁYSTOK.**

Powodem palenia się oświetlenia ulicznego w dniu 27.XII.1979 r. we wsi Tylwickie było zwarcie spowodowane zarzutką dokonaną przez nieznanego sprawcę. Na skutek meldunku usterkę w tym samym dniu usunięto i oświetlenie tam działa prawidłowo. Zakład nie jest w stanie każdego dnia kontrolować stan oświetlenia ulicznego. Każdy meldunek skierowany do Posterunków Energetycznych, Rejonów czy też zakładu jest z miejsca badany, a usterki są usuwane.

Za sygnały z terenu w tej sprawie serdecznie dziękujemy.

Zakład Energetyczny Białystok
Dyrektor
**mgr inż. Bogdan Siuda**

**Да публікацыі: „ПАТРЭБНА ПРАЧЫСТКА“, „Ніва“ № 35 (1225) ад 2.IX.79 г.**

**Адказвае: BIAŁOSTOCKI ZWIĄZEK SPÓŁEK WODNYCH W BIELSKU PODLASKIM.**

Urządzenia melioracyjne znajdujące się na gruntach wsi Krywiatycze zostały w 1979 r. przekonserwowane w pełnym rozmiarze, tj. w takim stopniu, na ile pozwoliły środki finansowe, składające się z dobrowolnych wpłat rolników.

Kierownik Biura BZSW
w Bielsku Podlaskim
**inż. A. Zawadzki**

Імпартгумар

## СТАРАЯ ПРЫВЫЧКА

— Іван Іванавіч, да нас рэвізор выязджае! — задыхаўшыся ад быстрай хадзьбы, дакладваю свайму начальніку.

— Ты што, рэвізораў баішся?

— Як не баяцца, калі рэвізор непрыступны, бы крэпасць?!

— Тым лепей. У яго што?

— Хабару не бярэ. І наогул...

— Ну так! Яшчэ чаго! — здзівіўся начальнік. Думай, што гаворыш. Гэтага быць не можа. Няма чалавека без слабасцей. Тут трэба, кажучы мовай медыкаў, устанавіць дакладны дыягназ.

— Весткі самыя несуцяшальныя. Гэта кашмарны рэвізор. Такіх я яшчэ не бачыў.

— Не п'е, ці што, хочаш сказаць?

— Язва страўніка. Дзесяць год, як не п'е і не церпіць тых, што гэтым грашаць.

— А як ён адносіцца да вытанчанай стравы? Ікра, грыбы, мёд, бліны...

— Не спажывае. Толькі малочныя прадукты, і нічога болей.

— А што, калі падарыць яму імпартныя чаравікі на платформе?

— Адмовіцца. Раўматызм у яго. Карыстаецца артапедычным абуткам.

— Так, моцны арэшак! Слухай, а што, калі футра прапанаваць? Натуральнае лісінае футра.

— Не пасуе. Ён у ім запарыцца, а гэта яму шкодна.

— Пачакай! Пачакай! Ён жанаты?

— Не! Перакананы халасцяк. І жанчыназенавіснік: здароўе ж кульгае...

— Так, такіх яшчэ не было, — уздыхнуў начальнік і глыбока задумаўся.

— Што ж рабіць, га?

— Паслухай! — выпаліў Іван Іванавіч. — У мяне ёсць знаёмы лекар. Спецыяліст — я табе дам! Мёртвага на ногі паставіць. Так што рэвізор наш і піць, і есць за траіх будзе. Нармальным чалавекам стане, як усе.

— Вось гэта ідэя! — усклікнуў я, але тут жа апамятаўся: — Ды чаго ж мы рэвізораў баімося? У нас жа ўсё ў парадку?

— Таксама правільна! — узрадаваўся начальнік. — А я ўжо па старой прывычцы расхваляваўся. Хай едзе.

**П. Путнін**



— Зноў левы рэйс?

Лісіца запрасіла зайца на гасціну: весяліся, касы!





*Алімпійскі сюрпрыз.*

Трымайце вуха!

## БУРКУН

Кузьма Бурчалкін кожны дзень
На нешта наракае.
Незадаволенасць, бы цень,
Яго не пакідае.

Ідзе з работы, дык бурчыць
На транспарт ён заўсёды.
Калі ж таксі яго імчыць,
Бурчыць на пешаходаў.

Сям'я спакою не дае:
То шумна ходзіць жонка,
То гучны голас падае
Яго дзіця ў пялёнках...

Бурчыць ён шмат на што яшчэ.
Бурчыць Кузьма бясконца.
Ну, скажам, сонца прыпячэ —
Само аблае сонца.

Няма ратунку. Што рабіць?
Казалі так на сходзе:
— Ну, як з такою цацай быць?
У заапарк, дый годзе!

**Васіль Жуковіч**

### ЗЛЫ ПЁС

Зайшоў сусед да суседа.

— Добры дзень!

— Здароў быў!

— А што ў вас ляжыць перад парогам?

— Як што — гэта злы пёс...

— Тфу..., а я не ведаў ды аб яго ногі выцер...

### НЕ ДАРАСЛА

— Цётка, — пытае дзяўчынка ў магазіне, — навошта вы так многа дражджэй купляеце, мабыць, піражкі пячы будзеце?

— Ды не, піражкі я ў магазіне куплю, а дрожджы мне для іншай справы патрэбны... Вось падрасцеш — даведаешся...

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Два дзялкі, якія адпачывалі ля мора, разгаварыліся аб сваіх справах.

— Думаю прабыць тут некалькі дзянькоў, — сказаў адзін. — Я толькі што атрымаў страхавую прэмію сто тысяч марак за пажар на маім заводзіку.

— Уяві, я таксама атрымаў дзвесце тысяч страхоўкі. Але за шкоды ад паводкі.

— Гм... а ты не мог бы мне сказаць, як ты робіш паводкі?

*

Дзяжурны адміністратар праходзіў па калідоры атэля і пачуў спеў за дзвярыма. Сышоўшы ўніз, ён спытаў у парт'е:

— А што, госцю з чатырнаццатага нумара ўжо ўручылі рахунак?

— Так, сэр.

— Дзіўна, што ён яшчэ спявае...

*

— Божа, як мяняюцца часы! Мая маці ўсё яшчэ дасканала памятае, як бацька першы раз пацалаваў яе, а мая сястра ўжо забыла, як звалі яе першага мужа!

Гумар з барадою

### У КРАМЕ

Хлопчык да крамніцыхі: — Дайце за чатыры грошы цукру, за дзесятку — гарбаты і шэсць грошай рэшты; а заўтра мама аднясе грыўню.



З „Весніка Задрыпоніі"

### У СВЕЦЕ СПОРТУ

У матчы футбольных каманд „Ураган" і „Тайфун", які, як вядома, закончыўся ўнічыю, з лікам 2:2, добра зарэкамендаваў сябе малады нападаючы „Урагана" Мазілёнак: яму аднаму ўдалося забіць усе чатыры галы.

### ПЫТАННЕ РЫЖАГА АЛЁШКІ

Дзе ўзяць сілу, калі няма волі?

*Без слоў.*





### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Аліны Юзвюк з Пасечнікаў Малых змяшчаем песню*

### NIE SZKODA RÓŻ

Słowa: **Elżbieta Zechenter-Spławińska**

Muzyka: **J. Wojdak, A. Zygierewicz**

Dobrze wiem,
jaką drogą dojść do gwiazd,
w jaki dzień
popłyniemy niebem tak czy tak.
Tylko tej
dawnej drogi nie znam, nie,
pomóż mi,
uchyl znowu drzwi.

Nie szkoda róż
gdy płonie las,
bo zwiędły już
i w nas.
Gorycz tych dni minie,
zaufaj mi,
nie szkoda róż
odległych tak,
wyrośnie tu
młody las,
kilka ciepłych słów
ogrzeje świat.

Przebacz mi,
chociaż spróbuj, przebacz mi,
w oknie stań,
kolorową tęczą niebo gra.
Przebacz mi,
nie potrafię zostać sam,
w oknie stań,
uchyl znowu drzwi.

Nie szkoda róż...

Przebacz mi,
nie potrafię zostać sam,
w oknie stań,
uchyl znowu drzwi.

Курёзы

### І СЦЕНЫ МАЮЦЬ ВУШЫ

Відаць, менавіта гэтае адлюстраванне мелі на прыкмеце студэнты мастацкага вучылішча ў Дзюсельдорфе, калі ўзяліся за размалёўку сцяны аднаго з будынкаў у родным горадзе. Сваімі сродкамі — мастацкімі — яны вырашылі пратэставаць супроць сачэння за прагрэсіўнымі элементамі ў ФРГ.



### ГЭТА КАМУНІСТКА КАРЭНІНА...

„Камуністычная небяспека" туманіць розум правіцелям расісцкай ПАР. Як паведамляюць з Іаганесбурга, тамашнія цэнтры залічылі ў разрад крамольных марксісцкіх твораў раман Л. М. Талстога „Анна Карэніна". Логіка цэнзараў, піша масцовая газета „Стар", простая: раман рускі — значыць, актывістка руху супраць апартэіду... У спіс забароненай літаратуры расісцкія цэнзары занеслі таксама творы Пушкіна, Чэхава, Горкага, Дж. Лондана, Шэкспіра, Драйзера, Ралана і многіх іншых сусветна вядомых пісьменнікаў.





**Калі хочаш пераплыць раку жыцця, не трымай камень за пазухай — пацягне на дно.**